НАВІНЫ

## Нам засталіся 400 кіламетраў калючага дроту

**Інжынерныя збудаванні на беларуска-польскай мяжы не будуць аднаўляцца. Выдзяленне сродкаў з бюджэту на іх знішчэнне таксама не прадугледжана.**

Пра гэта заявіў старшыня Дзяржкамітэта пагранічных войск Рэспублікі Беларусь Аляксандр Паўлоўскі ў Брэсце пасля падпісання выніковага дакумента перамоў з галоўным камендантам пагранічнай варты Рэспублікі Польшча Марэкам Бянькоўскім.

"Каб зняць калючы дрот і слупы, трэба патраціць вельмі вялікія грошы. Таму мы ўбіраем іх па меры таго, як яны падаюць. Мы не падтрымліваем наяўнасць такіх інжынерных збудаванняў на мяжы Беларусі і Польшчы. На мяжы з Прыбалтыкай і Украінай мы іх не будуем і нават не плануем, — сказаў Паўлоўскі. — Нам засталося ад Савецкага Саюза 400 кіламетраў інжынерных збудаванняў, але траціць грошы для таго, каб іх зняць, будзе няправільным. Пытанне аб аднаўленні загародаў або збудаванняў новых мы не абмяркоўвалі з польскімі калегамі... Ёсць зусім новыя метады і спосабы барацьбы з нелегаламі".

Спадар Бянькоўскі падтрымаў калегу: "Я хачу вас супакоіць — мы не будзем будаваць сцены і не будзем узводзіць новыя інжынерныя збудаванні". На пытанне карэспандэнта БелаПАН аб тым, калі Польшча ўвядзе візавы рэжым для беларусаў, М.Бянькоўскі адказаў, што "гэтае пытанне — у кампетэнцыі польскага ўрада".

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

## Х з'езд тэрапеўтаў

**У Беларусі вычарпаны магчымасці экстэнсіўнага развіцця медыцыны, заявіла намеснік міністра аховы здароўя Ларыса Сакалоўская, выступаючы на Х з'ездзе тэрапеўтаў Беларусі.**

Да станоўчых фактараў, што характарызуюць беларускую сістэму аховы здароўя, Сакалоўская аднесла самы нізкі сярод краін СНД узровень смяротнасці немаўлят, дастаткова высокія паказчыкі па аказанні экстраннай хірургічнай дапамогі, зніжэнне бальнічнай смяротнасці ад інфаркту міякарда, скарачэнне ўзроўню інфекцыйных захворванняў і высокую ступень ахопу насельніцтва прышчэпкамі.

"Павелічэнне і стабільнасць такіх аб'ёмных паказчыкаў дзейнасці галіны, як выклікі хуткай медыцынскай дапамогі, колькасць наведванняў урача, узровень шпіталізацыі і ступень занятасці ложкаў у бальніцах, сведчаць пра тое, што магчымасці для далейшага экстэнсіўнага развіцця медыцыны поўнасцю вычарпаны", — падкрэсліла намеснік міністра.

**Марат ГАРАВЫ.**

## Цуда-скальпель... без патрэбы

**У Фізіка-тэхнічным інстытуце НАНБ распрацаваныя скальпелі са здымным лязом для хірургічных аперацый.**

Пра гэта паведаміў акадэмік-сакратар аддзялення фізіка-тэхнічных навук Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі (НАНБ) Генадзь Анісовіч, выступаючы на сесіі агульнага сходу НАНБ. Па заключэннях вучоных, новы інструмент у 5 разоў вастрэйшы, чым нямецкія аналагі, а зажыўленне пасляаперацыйных ран адбываецца ў два разы хутчэй.

Распрацоўшчыкі інструмента гатовыя прадаваць яго ўдвая танней. З адпаведнай прапановай яны звярталіся ва ўрад, Дзяржкамітэт па навуцы і тэхналогіях, Міністэрства аховы здароўя. Але, як сказаў Анісовіч, "усё дарэмна — скальпель па-ранейшаму купляюць за мяжой". З гэтай нагоды акадэмік звярнуўся непасрэдна да прысутнага на сходзе міністра аховы здароўя Ігара Зелянкевіча з пытаннем: "Няўжо вам, Ігар Барысавіч, не шкада 800 тысяч долараў?". Адказу на пытанне не было.

**Мікалай ГРАЧУХА.**

## Паляцім з Магілёва ў Мінск і назад

**У чэрвені гэтага года плануецца адкрыццё новага авіярэйса па маршруце "Магілёў—Мінск".**

На працягу апошніх дзесяці гадоў Магілёўскі аэрапорт практычна не ажыццяўляў рэгулярных авіяперавозак. Узлётна-пасадачная паласа, пабудаваная ў адпаведнасці з патрабаваннямі міжнародных стандартаў, знаходзіцца ў добрым стане. Для аднаўлення працы аэрапорта неабходна добраўпарадкаваць яго тэрыторыю, прывесці ў парадак інжынерныя сеткі. Фінансаванне гэтых мерапрыемстваў праводзіць "Белавіянавігацыя".

На думку спецыялістаў, пасля адкрыцця Магілёўскі аэрапорт зможа прымаць пасажырскія самалёты любых тыпаў. Першым стане маршрут "Магілёў—Мінск", дзякуючы якому падарожжа з абласнога цэнтра ў сталіцу скароціцца па часе амаль у тры разы.

**Канстанцін УВАРАЎ.**

## Забойцу – на лаву падсудных

**Супрацоўнікамі Упраўлення ўнутраных спраў Брэсцкага аблвыканкама затрыманы чалавек, які падазраецца ў забойстве сям'і з вёскі Тэльмы Брэсцкага раёна. Гэта мужчына 1980 года нараджэння, жыхар гэтай жа вёскі.**

БелаПАН раней паведамляў пра тое, што ў ноч з 20 на 21 мая невядомы злачынца пранік у кватэру па вуліцы Вясёлая вёскі Тэльмы і сякерай забіў гаспадара кватэры, 1969 года нараджэння, і ягоную жонку, 1959 года нараджэння. Іх дачка Марына, 1994 года нараджэння, якую злачынца таксама ўдарыў па галаве, засталася жывая. Як стала вядома БелаПАН, днямі яна была пераведзена з рэанімацыйнага ў хірургічнае аддзяленне дзіцячай абласной бальніцы. Аднак апасенні ва ўрачоў пакідае яе псіхічны стан: дзяўчынка бачыла забітую маці ў лужыне крыві і пакуль яшчэ не ведае, што яе бацькі пахаваны. Марына таксама бачыла забойцу, пра якога паведаміла, што гэта знаёмы бацькі.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

ТЕМА ДНЯ

# "ЧЕМ РАНЬШЕ ЕДИНОГО КАНДИДАТА ОБГАДЯТ, ТЕМ БОЛЬШЕ У НЕГО БУДЕТ ВОЗМОЖНОСТЕЙ ОТМЫТЬСЯ..."

*(Окончание. Начало на 1-й стр.)*

**— Вечный президент Лукашенко — насколько это реально?**

— *(Тяжело вздыхает)* Я, например, понимаю, что второго пятилетнего срока может просто не быть. Это будет бессрочно... Самое страшное, что к этому все идет. Палата представителей сегодня готова проголосовать за любой, даже самый идиотский закон. Им ничего не стоит Лукашенко вообще увековечить...

**— Семен Николаевич, Вы не сумели стать безусловным лидером в Гродненской области. Как Вы собираетесь стать лидером республики?**

— А почему я не являюсь лидером Гродненской области? Я здесь безусловный фаворит. Других там просто нет.

**— А как же известный предприниматель Левоневский?**

— Сегодня достаточно пойти на тот же рынок, чтобы услышать мнение о Левоневском. Думаю, у него вообще никаких шансов нет и не будет. И потом, у меня есть подозрение, что Левоневского определенные силы специально используют против меня. Вообще, мне этого парня откровенно жаль. Есть хорошее выражение: без соответствующей амуниции нельзя проявлять амбиции. За Левоневским практически нет никаких структур. Предприниматели к нему весьма негативно относятся...

**— Но и про Домаша всякое говорят. Не раздаете налево и направо календарики с собственным портретом во весь рост, как Гайдукевич, значит, за душой у Вас просто-напросто нет ни гроша...**

— Всему свое время. Покупать избирателя — дело крайне неблагодарное. Оно может обернуться совершенно другой стороной. Я в этом убедился на собственном опыте, когда проводил избирательную кампанию в Верховный Совет 13-го созыва в Остринском избирательном округе. У меня было три соперника: местный руководитель компартии, заместитель редактора газеты "Рэспубліка" и начальник управления по борьбе с коррупцией Администрации президента, бывший работник прокуратуры Щучинского района. Один их них перед первым туром голосования женщинам района презентовал шампанское с конфетами, а мужчинам наливал по сто грамм. Народ все это употребил, а потом задумался: откуда деньги? В итоге этот человек пролетел. Опасно делать ставку исключительно на финансовый ресурс. Надо, чтобы люди осознанно поддерживали того или иного кандидата.

**— По мнению некоторых аналитиков, претендентам в президенты не хватает профессионального подхода к избирательной гонке, чтобы народ, как Вы выражаетесь, осознанно поддержал того или иного кандидата в президенты...**

— Конечно, в нашей ситуации без политтехнологов не обойтись. Но делать особый упор на какие-то современные технологии, применяемые в цивилизованных странах с устоявшейся демократией, надо очень осторожно. Просто потому, что у нас многие вещи воспринимаются иначе. Я провел переговоры с российскими специалистами, которые, между прочим, работали в Беларуси в 1994 году на президентских выборах.

**— Вы отказались участвовать в президентских выборах-99. Потребовали у Виктора Гончара гарантий, что все будет нормально. Сейчас Вы от кого ждете гарантий?**

— Я не участвовал в этих выборах по другой причине. Я с самого начала считал, что Верховный Совет обязан объявить выборы. Но провести их мы были не в состоянии. Репрессии стали подтверждением того, что режим не допустит этой кампании. Тогда нужно было просто показать, что власть помешает провести эти выборы и приостановить эту гонку. Даже до сегодняшнего момента. Все бы прекрасно поняли: Лукашенко руководит государством незаконно. В конце концов мою точку зрения признали, но, увы, уже было поздно что-то делать... Когда Гончар пытался привлечь меня к участию в этой кампании, я заявил: во-первых, все наши действия не будут иметь положительного результата, а во-вторых, мы снизойдем до уровня нарушителей закона.

**— Что Вас может заставить свернуть с избранного пути?**

— Если увижу, что есть человек, который сильнее меня и у которого больше шансов победить. Только это. Если бы испугался каких-то угроз, сам себя перестал бы уважать. Но мы живем в реальном мире. Знаем, с кем боремся. Власть способствовала исчезновению известных людей...

**— Вас тоже может постигнуть участь одного из них.**

— Я готов на все. А что придется вынести — одному Богу известно.

**— Прокрутят, например, по БТ компрометирующую пленку, где Домаш предстанет, мягко выражаясь, не в самом привлекательном виде. Кстати, однажды в году этак 96-ом такая реальная видеопленка перевернула всю новейшую историю Беларуси. Психологически Вы готовы к таким провокациям?**

— Поиск компромата, который власть сегодня использует как основной аргумент для уничтожения своих противников, ничего не дал. Компромата на меня нет вообще. Хотя сфабриковать можно все что угодно. Другое дело, хватит ли потом времени это опровергнуть... Поэтому как можно скорее нужно определиться с единым кандидатом. Грязь ведь тоже когда-то кончается. И чем раньше этого человека обгадят, тем больше у него будет возможностей отмыться... Впрочем, не исключено, что в дальнейшем могут последовать провокации против членов моей семьи.

**— А Вы не собираетесь их в целях безопасности на некоторое время отправить, скажем, в Москву?**

— Я пока не чувствую опасности.

**— Но Вы же сами говорили: *"Любой, кто бросает вызов власти или лично Лукашенко, подвергает опасности не только себя, но и свою семью"*.**

— Вопросы безопасности уже отработаны, хотя... Всего не предусмотришь.

**— Власти не случайно именно сейчас снова предъявляют претензии насчет Вашего дома.**

— Согласен.

**— А у Вас не возникало желания каким-то образом решить эту проблему? Вы же понимаете, что каждые выходные Зимовский или Козиятко будут говорить о том, что Домаш — проворовавшийся буржуй. Взяли бы и избавились от своего коттеджа, купили бы обыкновенную квартиру. Замечательный пиар-ход получился бы...**

— Тогда возник бы лишний повод говорить, что я действительно незаконно приобрел дом. А это не так. Я уплатил все деньги. Купил его в непригодном для проживания состоянии, нужно было делать капитальный ремонт. Дом 1938 года постройки, и никакой особой ценности он не представляет. Я вложил в него все, что у меня было. Стоимость капитального ремонта в несколько раз превышает сумму, за которую я его купил. Я отдал за этот дом свою четырехкомнатную приватизированную квартиру, хотя по закону запросто мог бы оставить ее за любым из сыновей. И никто бы меня не осудил. Но я сделал все возможное, чтобы не было ни малейшего повода для упреков. Увы... Я считаю, что каждый должен иметь свой дом или квартиру. И я докажу, что такое право у белорусов есть.

**— Семен Николаевич, каким образом Вы собираетесь предоставить это право белорусам, если вдруг?..**

— Я считаю, не стоит с головой кидаться в какие-то реформы. Мы должны разбудить в людях чувство хозяина. Дать полную свободу действий, право выбора.

Нужно максимально использовать мнение своих оппонентов. Без критиков, надеясь только на комплименты, движения вперед не бывает.

Необходимо создать в обществе атмосферу доверия. Благодаря власти люди должны почувствовать, что создается страна возможностей. Человек может заработать ровно столько, сколько может и хочет. Построить дом или купить квартиру. Каждый должен знать, что запросто может прийти к президенту, задать ему вопрос, дать совет или, наоборот, покритиковать. Я, например, считаю, что президенту обязательно нужно проводить дни открытых дверей. Вспомните, когда Лукашенко в последний раз вел прием граждан?..

Ни в коем случае нельзя приезжать поучать людей. Надо ездить к ним учиться, советоваться. Показывать, что президент во всех вопросах дока — поведение, недостойное руководителя.

**— Представим ситуацию: кандидатов на президентское кресло только двое. Нераскрученный, скромный Домаш и растиражированный, харизматичный Лукашенко...**

— Конечно, определенные сложности будут. У Лукашенко.

**— По-моему, в "БДГ" был опубликован астрологический прогноз специально для кандидатов на президентский трон. Если верить данному гороскопу, звезды благоволят не Вам...**

— ...а Козловскому. Читал. То ли еще будет.

**— Становясь публичными персонами и работая над своим имиджем, некоторые меняют гардероб, цвет кожи, речь. Лично Вы уделяете внимание подобным вещам?**

— В этом смысле мне всегда помогает жена и младший сын. У них хороший вкус. Но в последнее время мне почему-то все, кому не лень, стали давать советы, что надо делать, а что — нет. Я согласен, чтобы соответствовать должности, быть может, необходимо что-то подшлифовать. Однако при этом я хочу быть естественным, оставаться самим собой. Я противник создания искусственных имиджей.

**— Есть мнение, что Домашу никогда не избавиться от провинциализма...**

— Откровенно говоря, когда сравниваю себя с людьми столичными, особой разницы не чувствую. Хотя в моем поведении, наверное, есть что-то нестандартное. Может быть, излишняя застенчивость, сдержанность.

**— Вас упрекают в чрезмерной мягкости характера...**

— Доброта — мой недостаток. Я всех прощаю. Даже Лукашенко. Надо научиться прощать, тогда легче жить будет.

**— Критика Вас может вывести из себя?**

— Она возвращает меня на свое место. Меня возбуждает жесткая критика, во мне сразу просыпаются бойцовские качества. Хотя порой я реагирую на критику, пусть даже справедливую, как и все нормальные люди — крайне болезненно. Но стараюсь этого не демонстрировать.

**— Знаю, что у Вас много друзей среди госчиновников. Они уже общаются с Вами как с будущим президентом?**

— Я стараюсь сейчас с ними меньше контактировать, особенно публично. Чтобы не подставлять.

**— Из десяти кандидатов в президенты Вы себя считаете лучшим?**

— У меня нет каких-то болезненных претензий на роль единого кандидата. Я готов это место уступить любому, кто окажется проходным, если его видение будущей Беларуси не будет расходиться с моим. Хотя вижу, что благодаря некоторым своим качествам имею серьезные преимущества перед остальными...

*Торговля рассадой через решетку забора на рынке города Гомеля, 23 мая 2001 года.*

**Фото IREX/ProMedia.**

## ХТО БЯДНЕЙШЫ?

**Паводле звестак Міністэрства статыстыкі і аналізу, у красавіку 2001 года сярэдняя налічаная зарплата беларускіх калгаснікаў склала 60,6 тысячы рублёў, што эквівалентна 45 доларам ЗША ў пераліку па наяўным курсе. Зарплата калгаснікаў на 19,5 працэнта ніжэйшая за мінімальны спажывецкі бюджэт (МСБ) і на 51,8 працэнта меней за зарплату ў прамысловасці.**

Сярод нізкааплачваемых катэгорый грамадзян — малодшы медыцынскі персанал — 55,5 тысячы рублёў (73,7 працэнта ад МСБ), работнікі сацыяльнага забеспячэння — 61,9 тысячы (82,2 працэнта), культуры — 78,2 тысячы (103,9 працэнта), гандлю і грамадскага харчавання — 83,3 тысячы (110,7 працэнта), мастацтва — 85,3 тысячы (113,3 працэнта), адукацыі — 85,5 тысячы (113,6 працэнта), лясной гаспадаркі — 91,1 тысячы (121 працэнт).

Самыя высокія зарплаты ў красавіку былі ў работнікаў банкаўскай сферы — 203,6 тысячы рублёў (270,5 працэнта МСБ), страхавання — 159,1 тысячы (211,4 працэнта), урачоў — 153,4 тысячы (203,8 працэнта), у будаўніцтве — 132,9 тысячы (176,6 працэнта). У работнікаў апарата дзяржкiравання сярэдняя зарплата склала 122,3 тысячы рублёў (162,5 працэнта МСБ).

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**

## "Белпошта" парушае закон

**Грамадскае аб'яднанне "Беларуская асацыяцыя журналістаў" (БАЖ) атрымала адказ з Міністэрства прадпрымальніцтва і інвестыцый на сваю заяву аб прызнанні супрацьпраўнай дзейнасці рэспубліканскага дзяржаўнага аб'яднання "Белпошта" па ўсталяванні тарыфаў на паслугі сувязі для рэдакцый перыядычных друкаваных выданняў.**

У супольнай заяве БАЖ і рэдакцый газет "Белорусская деловая газета", "Белорусский рынок", "Свободные новости" і "Народная воля" сцвярджалася, што "Белпошта" злоўжывае сваім дамінантным становішчам на таварным рынку краіны, усталёўваючы для недзяржаўных СМІ значна вышэйшыя тарыфы на распаўсюджванне па падпісцы, чым тарыфы на аналагічныя паслугі для дзяржаўных СМІ. Заяўнікі прасілі Міністэрства прадпрымальніцтва і інвестыцый, якое з'яўляецца антыманапольным органам, прызнаць "Белпошту" і Міністэрства сувязі вінаватымі ў парушэнні патрабаванняў антыманапольнага заканадаўства, выдаць прадпісанне спыніць супрацьпраўную дзейнасць і ліквідаваць шкодныя наступствы дзейнасці "Белпошты".

Пасля адпаведнага вывучэння праблемы Міністэрства прадпрымальніцтва і інвестыцый прызнала, што дзейнасць аб'яднання "Белпошта" з'яўляецца супрацьпраўнай. Міністэрства прапанавала "Белпошце" "спыніць супрацьпраўную дзейнасць у адносінах да рэдакцый перыядычных выданняў, якія не датуюцца з дзяржаўнага бюджэту, у частцы ўстанаўлення тарыфаў на паслугі паштовай сувязі, што адрозніваюцца ад тарыфаў, усталяваных для рэдакцый іншых перыядычных выданняў, і інфармаваць аб зробленых захадах да 10 мая 2001 года". Аднак РДА "Белпошта" фактычна адмовілася выканаць прапанову антыманапольнага органа, абмежаваўшыся адпіскай.

Як адзначае прэс-служба БАЖ, у адпаведнасці з законам "Аб супрацьдзеянні манапалістычнай дзейнасці і развіцці канкурэнцыі" наступным крокам Міністэрства прадпрымальніцтва і інвестыцый павінна стаць вынясенне прадпісання, якое мае абавязковы характар. У выпадку атрымання такога прадпісання "Белпошта" будзе змушаная або яго выканаць, або абскардзіць у судзе. Ухіленне службовых асоб ад выканання або неадпаведнае выкананне прадпісанняў антыманапольных органаў цягне адміністрацыйную (да 30 мінімальных зарплат) або крымінальную адказнасць.

**Наталля КУЛАГІНА.**

СУД

# ДВА ЗАВЯШЧАННІ

**Не шукайце ў глыбінях памяці гэтае прозвішча. Не знойдзеце. Віктар — зусім не дысідэнт, не апазіцыянер, не ахвяра палітычных рэпрэсій. Ён проста работнік Баранавіцкага тэкстыльнага камбіната плюс студэнт-завочнік. Ён ахвяра. Праўда, не палітычная, а, так бы мовіць, бытавая. У свае маладыя гады Віктар ужо ўшчыльную, дэталёва пазнаёміўся з тым, што называецца беларуская судовая сістэма. Ад раённага да Вярхоўнага суда. Знаёмства яму не спадабалася...**

### Выходныя даныя

Жылі-былі стары ды старая. У іх быў сын. Ён скончыў школу ў Баранавічах і паступіў у адзін мінскі інстытут. Працаваў на заводзе. Неўзабаве пазнаёміўся з дзяўчынай. Але сям'і не атрымалася — маці маладога чалавека была супраць. Вынікам сувязі, як гэта часта бывае, стала дзяўчынка Віка. У 44 гады бацька Вікі раптоўна памірае. Дзяўчынку прывозяць на пахаванне бацькі ў Баранавічы, і старыя, зломленыя страшным горам, вырашаюць узяць Віку ў сям'ю. Потым памірае стары. Віка становіцца адзінай спадчынніцай маёмасці і дома. Аб чым і складаецца адпаведнае завяшчанне.

А потым у старой прапісваецца далёкі родзіч з мэтай даглядаць бабулю, бо ўнучка Віка робіць гэта, мякка кажучы, не вельмі старанна. І бабуля піша новае завяшчанне: 2/3 дома, згодна з ім, адыходзяць родзічу, 1/3 — унучцы. З чым апошняя, а найперш яе маці, не пагаджаюцца. Пачынаюцца судовыя разборы. Першы суд пакідае іск унучкі без задавальнення, затое другі прызнае завяшчанне бабулі (другое) несапраўдным. Дом і маёмасць зноў адыходзяць унучцы. З чым у сваю чаргу не пагаджаецца далёкі родзіч.

Вось у двух словах фабула гэтай гісторыі.

Пазнаёмімся з дзеючымі асобамі. Бабуля — Ксенія Антонаўна Ляскавец памерла ў 1997 годзе. Унучка — Вікторыя Ляскавец скончыла педвучылішча ў Баранавічах, зараз жыве з маці ў двухпакаёвай кватэры ў Мінску. Яе маці — Тамара Леанідаўна Сяўрук — інвалід, зараз на пенсіі. Далёкі родзіч — Віктар Врачынскі. Яго маці — Любоў Міхайлаўна Врачынская з'яўляецца стрыечнай сястрой нябожчыцы Ляскавец, іх бацькі былі роднымі братамі.

А сам дом, вакол якога разгарэліся нежартоўныя страсці, некалі належаў бацьку Любові Міхайлаўны, у свой час "раскулачанаму" савецкай уладай. Дом супругі Ляскавец разабралі і перавезлі ў Баранавічы. Віктар Врачынскі — траюрадны пляменнік Ксеніі Антонаўны, іншымі словамі, чалавек не з вуліцы.

### Візіт псіхіятра

Пасля з'яўлення другога завяшчання Вікторыя Ляскавец звяртаецца ў суд з просьбай прызнаць сваю бабулю недзеяздольнай, проста сказаць, псіхічна хворай. Іск адхілены, але ў справе фігурыруе акт судова-псіхіятрычнай экспертызы ад 8.04.97 г., дзе ўрач-псіхіятр Брэсцкага абласнога ПНД Г.Белашук самастойна робіць выснову аб недзеяздольнасці К.А.Ляскавец. На яго і спасылаецца Вікторыя.

Судовыя пасяджэнні ідуць адно за адным, урэшце дасягаюць колькасці 11. 22 студзеня 1998 г. баранавіцкі суд прызнае завяшчанне не маючым сілы. Варта заўважыць, што Вікторыя ў самым пачатку перадала па даверанасці права прадстаўляць свае інтарэсы маці — Тамары Леанідаўне Сяўрук.

Менавіта яна звярнулася да баранавіцкага псіхіятра Паршэнкі. Той пагаварыў з бабуляй, сказаў, што пасля 80 нікога дзеяздольнага няма, і параіў Сяўрук звяртацца ў суд аб прызнанні Ляскавец недзеяздольнай. Потым, па версіі Сяўрук, з Брэста прыехаў псіхіятр Г.Белашук (сам прыехаў, ці што?). У прысутнасці Сяўрук і Врачынскай ён апытаў бабулю. Вынікамі апытання Белашук застаўся незадаволены, што было адлюстравана ў акце экспертызы.

У Любові Міхайлаўны Врачынскай свая версія. Яе яна выклала ў судзе як сведка. Такім чынам: "Зайшоў мужчына з Сяўрук Тамарай. Павітаўся, прадставіўся, потым папрасіў назваць імя, прозвішча, год нараджэння. Яна адказала правільна. Спытаў пра адрас. Ксенія Антонаўна адказала: "Вы ж ведаеце, калі прыйшлі". Потым былі пытанні: дзе вучылася, працавала, чым займаецца на пенсіі, ці любіць сваю ўнучку. Потым Белашук узяў ручку і спытаў: "Што ў мяне ў руцэ?" "Як што, ручка. Вы што, за дурніцу мяне лічыце?!" Былі пытанні пра здароўе. "Мяне нічога не даймае, вось толькі ногі баляць ды спіна, а на здароўе не скарджуся". Пра ўнучку, дарэчы, Ксенія Антонаўна сказала: "Унучку люблю, хоць яна мяне не слухае, мне яе шкада".

Пасля гэтага Белашук адбыў.

Варта заўважыць, што Ксеніі Антонаўне было сказана: гэта ўрач, ён паглядзіць вашы ногі. Хто ён на самай справе, яна не ведала.

Цяпер вытрымка з "Акта амбулаторнай судова-псіхіятрычнай экспертызы: "На падставе вышэйвыкладзенага камісія ўрачоў-псіхіятраў экспертаў прыходзіць да заключэння, што К.А.Ляскавец паказвае прыкметы атэрасклератычнай прыдуркаватасці, аб чым сведчыць характар выказаных ёю скаргаў на галаўныя болі, шум у галаве... крытычныя функцыі інтэлекту не дазваляюць ёй правільна арыентавацца ў навакольнай абстаноўцы, ацэньваць характар сваіх дзеянняў, прадбачыць іх вынікі, выказваць сваё волевыяўленне і пазбаўляюць яе магчымасці разумець значэнне сваіх дзеянняў і кіраваць імі, іншымі словамі, яна недзеяздольная. К.А.Ляскавец мае патрэбу ў афармленні апекі".

Варта дадаць, што акт падпісаны Белашуком і Паршэнкам, хаця апошні пры апытанні не быў, што лёгка даказваецца. Ну, і для даведкі: згодна з дадаткам да загаду міністра аховы здароўя РБ №11 ад 25.7.93 г., першасны псіхіятрычны агляд робіцца са згоды аглядаемага. Пры гэтым псіхіятр павінен прадставіцца і растлумачыць мэту візіту. Калі ёсць падставы для агляду, то ён робіцца па пісьмовай заяве родзічаў, і акт абследавання прыкладаецца да амбулаторнай карткі. Нічога падобнага ў картцы псіхдыспансера К.А.Ляскавец няма. Якое права мела Сяўрук выклікаць псіхіятра — не родзічка — суд чамусьці высвятляць не стаў.

### "Падгонка"

Самы пікантны момант — у тым, што Белашук увогуле не меў права апытваць Ляскавец. У яго не было на гэта даручэння кіраўніка аблпсіхдыспансера. Цікава, што 7 красавіка 1997 года баранавіцкі суд вынес пастанову аб неабходнасці экспертызы, 10 красавіка пастанова адпраўлена ў дыспансер, 17 красавіка гэта ўстанова просіць прадставіць К.А.Ляскавец для агляду. І ніхто не здагадваецца, што Георгій Іванавіч Белашук "экспертызу" ўжо правёў і даў заключэнне.

Высвятляецца, што Белашук і Паршэнка дапусцілі сур'ёзныя парушэнні, за якія згодна з дзеючым законам, іх трэба прыцягваць да крымінальнай адказнасці. Больш за тое, наступныя (ужо пасмяротныя) экспертызы абапіраліся на гэтую, прыжыццёвую, якая, мякка кажучы, выклікае моцныя сумненні.

Ці меў права суд не даваць ацэнку гэтым абставінам? Не меў. Ці ёсць падставы пасля гэтага сумнявацца ў правільнасці судовага рашэння? Ёсць.

Я наўмысна ўхіляюся ад падрабязнага пераліку ўсіх несупадзенняў і памылак, якія мелі месца падчас судовага працэсу — іх хапае. Важна перш за ўсё тое, што галоўная падстава для прызнання завяшчання не маючым сілу — першы акт псіхіятрычнага агляду — быў па сутнасці незаконным. Ну, а далей проста ішла "падгонка" пад гэты акт.

Ці ёсць у мяне права так пісаць? Ёсць. Па-першае, суд адхіліў хадайніцтва Врачынскага аб выкліку ў суд Белашука. Па-другое, суд адмовіўся запрасіць загад Міністэрства аховы здароўя №222 ад 9.12.91 г., дзе сказана, што экспертызы праводзяцца камісіяй у складзе трох экспертаў. Па-трэцяе, суд прыняў да ўвагі паказанні адных сведак і не прыняў — іншых.

Верагодна, гэта і ёсць беларускі суд у сваім сапраўдным абліччы. Прыстойны суд, калі ёсць сумненні, выносіць рашэнне на карысць адказчыка. А тут размова нават не аб сумненнях...

### Пасланне да прэзідэнта

Між іншым, Ксенія Антонаўна Ляскавец некалі скончыла Варшаўскі універсітэт, выкладала матэматыку больш за 40 год. У яе ў Баранавічах засталося мноства вучняў, калег, проста знаёмых. Да апошняга калегі падтрымлівалі з ёю кантакты. Таму іх заява ў Брэсцкі аблсуд выглядае лагічнай. Я выкладу яе тэзісна.

Сям'я Врачынскіх даглядала Ляскавец апошні год яе жыцця. Унучка Вікторыя і яе маці ад догляду адмовіліся. Унучка спрабуе даказаць, што бабуля была псіхічна хворай і падпісала завяшчанне ў хваравітым стане. На ўліку ў псіхдыспансеры Ляскавец не была, псіхіятр яе не наведваў, а картка ў дыспансеры заведзена са слоў Вікторыі і яе маці. Медкартка Ляскавец з гарадской паліклінікі была нахабна вырвана з рук участковага тэрапеўта Тамарай Сяўрук са словамі: "Вы мне тут напішаце не тое, што трэба". Гэта было ў 1996 годзе. Даныя аб стане здароўя Ляскавец за апошнія 5 год зніклі. Сведчым, што да апошніх дзён Ксенія Антонаўна захавала ясны розум. Восенню 1996 года яна страціла магчымасць сябе абслугоўваць, і мы ўстанавілі дзяжурства. Мы бачылі, што Врачынскія добра даглядалі Ксенію Антонаўну. Яна параілася з намі і вырашыла прапісаць Віктара і скласці новае завяшчанне. Гэта было абумоўлена варожымі да яе адносінамі з боку ўнучкі і непрызнанай нявесткі, якія адмаўлялі ёй у мінімальным харчаванні і пагражалі здаць у "псіхушку", дзе ўсё дамоўлена.

Настаўніцкая грамадскасць горада, былыя вучні Ксеніі Антонаўны, участковы ўрач і натарыус абураны несправядлівымі дзеяннямі суда г.Баранавічы і просяць перагледзець справу ў новым саставе суддзяў. Падпісалі: Паручыкава, Раманава, Грабоўскі, Пярова, Быко, Плотнік, Дзядкова, Лаўрова, Казанцава і многія іншыя.

Брэсцкі суд не прыняў да ўвагі гэтую заяву. Рашэнне баранавіцкага суда ён пакінуў без змен.

### Блуканне па калідорах

Віктар мне пералічыў, а я дысцыплінавана запісаў, куды і колькі разоў ён звяртаўся па сваёй справе.

Наконт завяшчання: Брэсцкі аблсуд, Вярхоўны суд (3 адказы, усе адмоўныя), Генеральная пракуратура — нічога, Канстытуцыйны суд (ён такімі справамі не займаецца), Міністэрства юстыцыі, Камітэт дзяржкантролю (дзве апошнія ўстановы прызначаны для іншага).

З нагоды высялення — яшчэ 4 мая Віктара павінны былі выселіць прымусова, аб гэтым яму прыйшла папера за подпісам суддзі І.Салавей — звароты былі ў Баранавіцкі суд, Брэсцкі аблсуд, Вярхоўны суд, абласную пракуратуру, Генеральную пракуратуру. Усюды — нічога. Усе гэтыя ўстановы проста акуратна дубліравалі рашэнне Баранавіцкага суда. Некаторыя спынялі перапіску, аб чым так жа акуратна паведамлялі. Да новага Генпракурора Шэймана Врачынскага проста не пусцілі. Гэта якраз нядзіўна: у сп.Шэймана хутка пачнецца "сенакос", так бы мовіць, гарачае лета 2001-га, выбары і іншае. Што яму да нейкага там хлопца з правінцыі, калі, можа быць, уласны лёс вырашаецца...

— Значыць, у нас такі суд? — спытаў на развітанне Віктар.

— Значыць, такі, — адказаў я.

Што я яму мог адказаць яшчэ? Ён цяпер сам вопытны.

**Андрэй СЯРЖАН.**

## Укралі ядахімікаты на суму 2,5 мільёна рублёў

**Невядомыя зламыснікі скралі ядахімікаты ў калгасе "Перамога" Столінскага раёна Брэсцкай вобласці, кошт якіх ацэньваецца ў 2 мільёны 500 тысяч рублёў. Злачынцы сарвалі два навясныя замкі з дзвярэй склада ў вёсцы Бялоўша і вынеслі з памяшкання гербіцыды для апрацоўкі кукурузы — 20 літраў "місагра", 10 літраў "рэйсера" і дзве пяцілітровыя каністры "пірамін-турба".**

Варта зазначыць, што незадоўга да таго, што здарылася, кіраўніцтва гаспадаркі накіравала супрацоўнікам міліцыі прадстаўленне, у якім паведамлялася, што склад надзейна ахоўваецца. Аднак, паводле інфармацыі УУС, тэхнічна ён быў умацаваны слаба — яго ахоўваў калгасны вартаўнік. Як патлумачылі ва УУС, падобныя крадзяжы адбываюцца на Брэстчыне практычна штогод. Ад устаноўкі сігналізацыі на складах і фермах кіраўнікі гаспадарак звычайна адмаўляюцца, тлумачачы нежаданне карыстацца паслугамі аб'яднання "Ахова" адсутнасцю сродкаў. Што тычыцца вартаўнікоў, то нярэдка яны самі становяцца саўдзельнікамі злачынстваў.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

РЭГІЁН

## Крадуць...

У доме-інтэрнаце для псіхічна хворых, які знаходзіцца ў вёсцы Свадкавічы Крычаўскага раёна, зафіксаваны шматлікія парушэнні і злоўжыванні з боку персаналу.

Асноўная частка злоўжыванняў тычылася вядзення асабістай гаспадаркі і харчовага забеспячэння хворых. Даходзіла да элементарнага абкрадання штодзённага рацыёна няшчасных людзей. Выяўленыя факты паслужылі прычынай для накладання штрафаў на шэраг прадстаўнікоў персаналу, у тым ліку і на дырэктара дома-інтэрната.

## Прыязджайце да нас усе!

Пры Андранаўскай сельскай участковай бальніцы Мсціслаўскага раёна функцыянуе незвычайны прыёмна-размеркавальны пункт. На сённяшні дзень там на ўтрыманні знаходзіцца больш за 10 дзяцей, бацькі якіх альбо хворыя на алкагалізм, альбо сядзяць у турме. Практычна ўсе гэтыя дзеці не з'яўляюцца грамадзянамі Беларусі.

Палітыка адкрытасці і найбольшага спрыяння для перасяленцаў з суседняй Расіі, якая актыўна праводзіцца ўладамі нашай краіны, прывяла да масавага прытоку дэкласіраванага і небяспечнага ў крымінальным сэнсе элемента. Асабліва гэта закранула ўсходнюю частку Беларусі, а таксама "чарнобыльскія" раёны. Як вынік — дадатковыя праблемы не толькі з небяспечнымі для грамадства бацькамі, але і з іхнімі дзецьмі.

Статус і далейшы лёс маленькіх расіян дасюль не вызначаны, аднак робяцца пэўныя захады па дэпартацыі сірот на радзіму — да сваякоў.

## Праблема электрычнасці

Праблема запазычанасцяў за скарыстаную электраэнергію закранула на Чэрыкаўшчыне не толькі прадпрыемствы і арганізацыі, але і шэраговых грамадзян.

Так, звычайнымі з'яўляюцца даўгі ў 40—50 і нават у 70—80 тысяч рублёў. Аднак рэкардсменкай сярод неплацельшчыкаў лічыцца жыхарка вёскі Верамейкі К. — яна павінна 302.796 рублёў! Такім чынам, яе доўг можна супаставіць з доўгам невялікага суб'екта гаспадарання.

Вялікая колькасць чэрыкаўцаў і жыхароў раёна катэгарычна адмаўляюцца плаціць. Прычынай грашовага байкоту яны называюць адсутнасць грошай.

**Андрэй КУЗЬМІН,**
**кіраўнік інфармацыйнай службы "Кантакт-цэнтр".**

